*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 5 (493)** **31 СТУДЗЕНЯ 2001 г.**



**30 студзеня споўнілася 80 гадоў народнаму пісьменніку Беларусі, акадэміку Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Івану Пятровічу Шамякіну. Сакратарыят ТБМ імя Францішка Скарыны рэдакцыя газеты "Наша слова" шчыра віншуюць Івана Пятровіча з 80-годдзем, жадаюць моцнага здароўя і творчага плёну.**

**Фота з дассе БелТА.**

## Рэспубліканская рада ТБМ

**3-га лютага 2001-га года ў 11 гадзін у тэатральнай зале Чырвонага касцёла адбудзецца чарговае паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ.**

**Парадак дня:**

**1. Аб падрыхтоўцы і правядзенні чарговага VII з'езду ГА ТБМ імя Францішка Скарыны.**

**2. Дзейнасць Таварыства па выпрацоўцы Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі.**

## *Дарагая рэдакцыя!*

*Я заўсёды выпісваю і чытаю газету "Наша слова". Лічу, што палітыка гэтай газэты адзіна правільная і, на маю думку, прыносіць вялікую карысць у справе адраджэння роднай мовы.*

*Я вельмі здзіўляюся з той пазіцыі, якую займае кіраўніцтва нашай краіны адносна беларускай мовы. Не разумею, як можна не любіць такое прыгожае, мілагучнае роднае слова і як можна зневажаць беларускую мову.*

*Вельмі крыўдна, калі чуеш у кнігарні, як малое дзіця скажа слова па-беларуску, а маці яго выпраўляе на расейскі лад.*

*Хіба ж гэта не здзек над прыродай?!*

*Можна многа казаць, як улады сваёй палітыкай русіфікацыі здзекуюцца над нацыяй, але, я веру, за гэта іх чакае Божая кара.*

***Вучань з Бярозаўкі.***

## На парадку дня
### Стратэгія развіцця беларускай мовы

**27 студзеня 2001 года ў 13.00 у сядзібе ТБМ на Румянцава, 13 у Менску адбылося першае паседжанне рабочай групы па падрыхтоўцы Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі.**

На паседжанні намеснікам старшыні рабочай групы абраны Сяргей Запрудскі, сакратаром -- Святлана Багданкевіч. У склад рабочай групы былі ўведзены Пятро Русаў і Мікола Савіцкі.

Рабочая група разгледзела першыя напрацоўкі па Стратэгіі, пададзеныя з Магілёва, Ліды, Светлагорска. Да 3-га лютага аналагічныя напрацоўкі павінны паступіць ад іншых сяброў рабочай групы.

**ПАГОНЯ №500**

Чацвер 25 студзеня 2001 г. № 4 (500) Кошт 75 рублёў

**Гарадзенцы пра ПАГОНЮ**

**Інфармуем, ратуем і дапамагаем**



**Сакратарыят ТБМ імя Францішка Скарыны, рэдакцыя газеты "Наша слова" шчыра віншуюць рэдакцыю газеты "Пагоня" з выхадам 500-га нумара газеты. Газета "Пагоня" на працягу ўсяго свайго існавання была і ёсць фарпостам беларускасці ў беларускай прэсе. Нават у самыя цяжкія часы, перад пагрозай закрыцця газета не паступілася беларускай мовай, беларускай ідэяй і беларускай сумленнасцю. Стойкасць газеты "Пагоня" і яе галоўнага рэдактара Міколы Маркевіча выклікаюць глыбокую павагу ды захапленне сучаснікаў і будуць высока ацэнены нашчадкамі.**

Беларуская мова- ТБМ наша будучыня



## *Ахвяраванні на ТБМ*

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Ганчарова Валянціна, г. Менск | 500 руб. |
| 2. | Петрукові Васіль, г. Менск | 2500 руб. |
| 3. | Станішэўскі Віталь, г. Менск | 170 руб. |
| 4. | Кановіч Алесь, г. Менск | 380 расійскіх руб. |
| 5. | Халіп Ірына, г. Менск | 20$ |
| 6. | Судзілоўская Я. І., г. Гомель | 3000 руб. |
| 7. | Качаргіна Л. А., в. Палата, Полацкі р-н | 500 руб. |
| 8. | Катляроў У.Р., Шах С.М., г. Светлагорск | 6000 руб. |
| 9. | Ціліцына Т.М., г. Мёры | 9900 руб. |

Дзейнасць Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны па наданні роднай мове рэальнага статусу дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г.Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

## Я магу жыць лепей

28 студзеня ў сядзібе ТБМ прайшоў выніковы семінар "Я магу жыць лепей". У семінары бралі ўдзел ініцыятар навучання Вячка Станкевіч (ЗША), выкладчыкі Антаніна Хатэнка, Людміла Дзіцэвіч, Аляксей Хадыка а таксама слухачы, якія цягам апошніх трох месяцаў праходзілі навучанне ў рамках семінару ў розных гарадах Беларусі і якія здолелі зазірнуць у глыбіні сваіх уласных праблемаў і ў глыбінь праблем, якія баляць усяму грамадству.

*Больш падрабязна пра ўсё гэта вы зможаце прачытаць у нататцы Антаніны Хатэнкі "Мы ёсць, мы былі, мы будзем" у наступным нумары нашай газеты.*

## *Беларускія СМІ пра беларускую мову*

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

Тут трэба падтрымка ўладаў, якія б урэшце зразумелі: калі мы Беларусь, то павінны з годнасцю ставіцца да сваёй мовы, гісторыі і культуры.

*З інтэрвію дырэктара Беларускага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Я. Коласа Уладзіміра Коласа.*

**"Наша свабода", 10.01.2001 г.**

*Аліхесавай пятой нашай адукацыі з'яўляецца выкарыстанне ёю на працягу ўжо некалькіх стагоддзяў лацінскай, польскай, рускай моў і амаль поўнае выключэнне з педагагічнага працэсу роднага слова беларусаў.*

*Ефрасіння Андрэева.*

***Народная воля. 9.01.2001 г.***

А назавіце хоць адну краіну ў Еўропе, дзе б кіраўнік дзяржавы прамаўляў перад народам не на роднай мове? У Вас *(А. Лукашэнка – Я.П.)* толькі эпізадычна пачуеш асобныя беларускія словы, ды і дзеля таго, каб пазбыткаваць над матчынай мовай. Усведаміце, з пахаваннем роднай мовы Вы пахаваеце і сваю нацыю. *(Пераклад Я.П.)*

Эдуард Пятровіч Юніцкі, пенсіянер.

**Народная воля, 11.01.2001 г.**

*На "братэрскай" будоўлі працавалі жыццерадасныя ўкраінцы, што пакінулі ў правінцыйнай глухамані пульхных, румяных матрон без грыўні ў кішэні, але поўных надзей на Маскву - горад мільянераў, вусатыя, панурыя, нізкарослыя малдаване, якія трымаліся асабняком ад украінцаў,* ***беларусы, якія нават паміж сабой размаўлялі выключна на дрэннай рускай мове.***

***Фрыдрых Нязнанскі. "Зграя кручаных".***

## Запрашаем

**Новыя і рэдкія кнігі, навучальныя дапаможнікі, часопісы, кніжкі для дзяцей, беларускамоўныя аўдыё- і відэакасеты, значкі, каляндарыкі і паштоўкі шукайце на выставе ў сядзібе Таварыства беларускай мовы (Румянцава, 13, ля Лінгвістычнага універсітэта, ст. метро "Плошча Перамогі").**

**Выстава працуе з 11:30 да 19:00, апроч выхадных.**





# Выцінанкі Вячаслава Дубінкі

У культурным жыцці нашай краіны – падзея. Адкрылася першая ў гісторыі беларускага мастацтва персанальная выстава выцінанкі. Свае творы прэзентуе народны майстра Вячаслаў Дубінка, які тым самым вяртае да жыцця адно з арыгінальных народных мастацтваў.

Людзі сталага веку памятаюць той час, калі ажурныя выразанкі былі асноўным аздабленнем жытла. Карункамі з паперы ўпрыгожвалі вокны, абразы, паліцы, сцены, бэлькі, навагоднія ёлкі. Але ў другой палове 20 стагоддзя выцінанка была выцеснена з ужытку іншымі відамі дэкору і амаль што знікла, ды і ніхто з музейшчыкаў не паруліўся захаваць гэты ўнікальны від народнага мастацтва. І толькі пад Новы год расквечаныя папяровымі сняжынкамі вокны нагадваюць пра жыццёвасць казачна – святочнай выцінанкі.

Вячаслаў Дубінка захапіўся гэтым відам мастацтва напрыканцы шасцідзесятых. З тае пары нажніцы і папера сталі заўсёднымі спадарожнікамі майстра. Папяровыя фантазіі творцы не маюць межаў. Сведчанне таму – ягоныя творы. На выставе ўражваюць арнаментальна-дэкаратыўныя ручнікі, ажурныя кампазіцыі з дрэў, кветак, рэальных і казачных птушак, загадкавых звяроў ды помнікаў архітэктуры, ілюстрацыі да кніг. Глядзіш і вачам сваім не верыш, што ўсе гэтыя дзівосы зроблены кравецкімі нажніцамі са звычайнай паперы. Усяго два колеры – чорнае на белым або чорнае на чырвоным фоне ствараюць ўяўленне шматфарбнасці.



Вячаслаў Дубінка як прафесійны мастак–графік аздобіў выцінанкамі шэраг дзіцячых кніжак ды паэтычных зборнікаў. Пры адкрыцці выставы, дзе сярод іншых прамаўлялі доктар мастацтвазнаўства Яўген Сахута, а таксама мастакі Уладзімір Басалыга, Аляксей Марачкін, Георгі Скрыпнічэнка, творцу называлі бацькам адраджэння традыцыйнага народнага мастацтва выцінанкі. Наогул Вячаслаў Дубінка – натура шырокая. У народзе пра такіх кажуць: і шавец, і жнец, і на дудзе ігрэц. Цікаўныя ведаюць яго не толькі, як майстра выцінанкі. Ён – адметны літаратар, якому падуладны жанр гумарыстычна-сатырычнай прозы; апантаны фатограф, што стварыў багаты фоталетапіс знаных людзей і помнікаў дойлідства Беларусі; заўзяты калекцыянер паштовых марак і запалкавых налепак. А перадусім – гэта нястомны падарожнік, які бальшыню свайго жыцця праводзіць у вандроўках па белым свеце. Адным словам, Вячаслаў Дубінка – жывая легенда нашага часу. У гэтым лёгка пераканацца, калі завітаць на выставу ў Музей выяўленчага мастацтва, што на праспекце Францішка Скарыны ў Менску, каб адкрыць для сябе мастацтва выцінанкі і ўнікальнага творцу.

*Ірына Ляксеева.*

# Ініцыяцыя беларускасці

Цікавая падзея адбылася днямі ў сярэдняй школе № 35 г. Магілёва. У госці да вучняў і настаўнікаў прыйшлі вядомыя не толькі на Магілёўшчыне дацэнт кафедры Беларускай літаратуры факультэта славянскіх моў МДУ імя А. А. Куляшова і старшыня гарадской Рады грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" Клімуць Яраслаў Іванавіч і заслужаны дзеяч культуры РБ, кіраўнік народнага тэатра Ермаловіч Валянцін Іванавіч.

У зале сабраліся тыя, каму не чужды родная мова і нацыянальныя культурныя традыцыі, тыя, хто хоча сапраўды быць Беларусам з вялікай літары.

Па ініцыятыве вучня 10 класа "Б" СШ №35 Задзірана Яўгена, які выступіў з невялічкай прадмовай, была ўтворана суполка грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны". Ва ўрачыстых абставінах ганаровыя госці вечара перарэзалі сімвалічную чырвоную стужку. Потым былі вершы, пытанні і фатаграфіі на памяць.

Сябрамі суполкі сталі 35 вучняў школы, а таксама ўсе настаўнікі беларускай мовы і літаратуры школы. Завяршылася сустрэча ўручэннем падарункаў шаноўным гасцям вечара ад метадычнага аб'яднання настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры СШ № 35.

Суполка ўжо пачала вельмі актыўную дзейнасць. Адбыўся выбарны сход, дзе адзінагалосна старшынём суполкі быў абраны яе ініцыятар Яўген Задзіран. Намеснікам старшыні стала настаўніца беларускай мовы і літаратуры Несцяровіч Алена Ўладзіміраўна, якая, нягледзячы на свой малады ўзрост, вельмі дасведчаная, ініцыятыўная і творча падыходзіць да любой справы. Арганізацыйны аддзел узначаліла кіраўнік школьнага і раённага (Ленінскі р-н) метадычнага аб'яднання настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры Шчэрба Галіна Міхайлаўна, настаўніца вышэйшай катэгорыі.

Распачаўся рэспубліканскі конкурс сумесна з газетамі "Настаўніцкая газета" і "Вячэрні Магілёў" на лепшы ўрок беларускай мовы і літаратуры "На ўрок, як на свята". Конкурс падтрымала гарадская Рада ТБМ, раённы, гарадскі і абласны аддзелы адукацыі Магілёўшчыны. Конкурс працягнецца да 1 сакавіка. Яго пераможцы і прызёры атрымаюць падарункі.

Таксама прайшоў яшчэ адзін конкурс "Рамантызм", пераможцай якога стала Кудаева Алена, вучаніца 10 "В" класа СШ №35 г.Магілёва. Яна атрымала кнігі на беларускай мове і металаграфічную карціну. Яе настаўніцы Несцяровіч Алене Уладзіміраўне быў уручаны сувенір "Беларусь".

У канцы студзеня ў СШ № 35 адбудзецца сустрэча са знакамітым беларускім пісьменнікам Генадзем Бураўкіным. Таксама суполка плануе наведванне Беларускага тэатру сатыры і гумару "Хрыстафор" (27.01), народнага тэатра ў ГДК (14.02), плануюцца экскурсіі па цікавых мясцінах Бела-русі і Літаратурныя вечарыны. У хуткім часе пачне выходзіць уласнае выданне – газета "Наша Радзіма", якую будзе выдаваць прэсцэнтр суполкі.

Адміністрацыя школы вельмі станоўча аднеслася да адкрыцця суполкі. У яе ўваходзяць ўсё больш вучняў і настаўнікаў. Асноўная мэта суполкі – абарона і распаўсюджанне беларускай мовы, адраджэнне бел. нацыянальнай культуры. Будзем сапраўднымі беларусамі ў новым тысячагоддзі!

*Матэрыял падрыхтаваны прэс-цэнтрам суполкі ГА "ТБМ" СШ №35 г. Магілёва.*



МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

МИНИСТЕРСТВО ОБРАЗОВАНИЯ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

22.12.2000 г. № 29-04-1/984
на № 784 ад 01.12.2000 г.

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"
220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13
Старшыні ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"
спадару Трусаву А. А.**

Паважаны Алег Анатольевіч!

Галоўнае ўпраўленне вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі паведамляе, што на нарадзе рэктараў вышэйшых навучальных устаноў 29 лістапада 2000 года разглядаліся пытанні ўдасканалення вучэбна-выхаваўчага працэсу ў ВНУ, у тым ліку закраналіся праблемы выкладання вучэбных дысцыплін на беларускай мове.

**Начальнік Галоўнага ўпраўлення вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі В. М. Дабранскі.**



РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ
МІНСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
УПРАЎЛЕННЕ АДУКАЦЫІ
220050, г. Мінск, вул. Кірава, 5.
Тэл./факс 227-41-38

РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ
МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
УПРАВЛЕНИЕ ОБРАЗОВАНИЯ
220050, г. Минск, ул. Кирова, 5
Телефакс 227-41-38

"12" 12 2000 г. № 6-03/2146
на № 7 ад "13" 11 2000 г.

**Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны**

Упраўленне адукацыі Мінгарвыканкама паведамляе, што нарматыўных актаў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь наконт абмежавання правой бацькоў, якія жадаюць навучаць сваё дзіця па-беларуску ў агульнаадукацыйных установах г. Мінска, няма. Органы адукацыі ў сваёй рабоце кіруюцца Законам Рэспублікі Беларусь "Аб мовах" і Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

Згодна з дзеючым заканадаўствам, з улікам пажаданняў бацькоў у горадзе працуюць як рускамоўныя, так і беларускамоўныя школы. Класы з беларускай мовай навучання пры пэўнай колькасці заяў (рашэнне Мінгарвыканкама ад 10.07.97г. № 572 "Аб мерапрыемствах па эканоміі бюджэтных і пазабюджэтных сродкаў у 1997 годзе") адкрываюцца і ў рускамоўных школах.

**Намеснік начальніка Р. В. Махнач.**

# Успаміны ад Хведара Нюнькі

**У Вільні выйшла кніга старшыні Таварыства беларускай культуры ў Літве Хведара Нюнькі "Мае ўспаміны". У кнізе 48 старонак з ілюстрацыямі. Наклад 300 асобнікаў.**






## Выстава ў Віцебску

**Сувеніры з саломкі, карункі, вышыўка, вырабы са скуры, вязанне і тканыя работы вынеслі на суд гледачоў юныя ўмельцы з віцебскага дзіцячага клуба "Спадчына" і жаночага клуба "Натхненне" на выставе, якая адкрылася ў абласным цэнтры.
На здымку: сябры клуба "Спадчына" Воля Антонава,Таня Ігнатовіч і Маша Бобкіна са сваімі вырабамі.
Фота Аляксандра Хітрова, БелТА.**

# "Родны край" з чужымі імёнамі

Насценны каляндар "Родны край" мае болей як дзесяцігадовую гісторыю. Я люблю гэтае выданне і карыстаюся ім з вялікім задавальненнем. Тут можна сустрэць імёны нашых землякоў ці людзей, што мелі дачыненне да Беларусі: жылі і тварылі тут, альбо пісалі пра яе; пазнаёміцца з гістарычнымі падзеямі ды сустрэць шмат іншых і цікавых матэрыялаў. Усё аб Беларусі і ў гэтым плане да гэтага часу каляндар апраўдваў сваю назву – "Родны край".

Выпуск – "Родны край" – 2001 мяне нечакана здзівіў навaўвядзеннем. На яго старонках з'явіліся не толькі імёны тутэйшых герояў-падпольшчыкаў мінулай вайны, але расейскіх паэтаў, пісьменнікаў ды палітычных дзеячоў. Скажам, 150 гадовы юбілей расейскага кнігавыдаўца Івана Сыціка, 175-годдзе М. Салтыкова-Шчадрына ці юбілей першага прэзідэнта сучаснай Расеі Барыса Ельцына. Для гэтых імёнаў існуюць іншыя календары, а ў Расеі іх безліч. Але самае цікавае, што не ўсе тыя календары ўзгадваюць гэтыя імёны.

*Антон Макей.*




*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Ванька Бубянцоў нічога не чуў і не бачыў. Ён быў выключаны з рэальнага жыцця непамернай дозай алкаголю. Такое было для яго найвялікшым шчасцем. Проста здзейснілася яго запаветная мара, пра што ён заўжды назаўтра гаварыў прыкладна так: "Учора набраўся ... Во, клас!"

Бубянцоў не прачнуўся нават тады, калі яго неслі, а затым проста кінулі на падлогу ў прыёмным пакоі.

Некалькі дактароў, санітарак і два шафёры запісалі ў кнізе рэгістрацыі прозвішча Бубянцоў і паставілі вялізны пытальнік. Іншыя звесткі адсутнічалі.

А яшчэ паўгадзіны, пасля доўгіх непрымірымых спрэчак, якія часам пераходзілі ў звычайную лаянку дзяжурнага медперсаналу паміж сабою, Бубянцова, каб ён не турбаваў хворых, размясцілі на адну ноч у пустой палаце, дзе звычайна клалі раённае начальства незалежна ад іх хваробы, а то і зусім здаровых, калі трэба было перачакаць нейкую камісію ці праверку. Гэта была аднамесная, самая светлая і самая чыстая палата ў райбальніцы. Ваньку Бубянцова паклалі на чыста засланы ложак і нават не звярнулі ўвагі на тое, што ён быў мокры і ўвесь запэцканы граззю, акрамя іншага, ад яго ў апошні момант пайшоў непрыемны смурод.

III

Лейтэнант Піліпчук, які правеў бліскучую аперацыю па збаўленню раённага аддзела ўнутраных спраў ад Ванькі Бубянцова, вырашыў прайсціся па горадзе, паглядзець на парадак.

На маршрут разам з ім пайшлі дзяўчаты-дружынніцы. Дзяўчаты, вядома, не маглі затрымаць злачынцу, супакоіць хулігана, адвесці куды трэба п'яніцу, але павінны былі пэўную колькасць разоў наведацца ў міліцыю, каб атрымаць прэмію ... пяць рублёў. Іншыя міліцыянеры на сваім дзяжурстве адмахваліся ад жанчын і дзяўчат, а лейтэнант Піліпчук быў ім вельмі рады. Ён быў нежанаты, прытым яшчэ малога росту і меў непрыгожы ваcпаваты твар. І толькі ў час дзяжурства з дружынаю ён мог пакрасавацца ў дзявочай кампаніі.

Ішлі яны нетаропка. У Піліпчука быў вясёлы настрой. Ён безупынна распавядаў пра сваю службу, пра бандытаў, пра пагоні і засады, пра ўсё тое, аб чым можна прачытаць у любым прыгодніцкім рамане, а дзяўчаты ні на крок не адставалі ад яго і ўважліва слухалі.

Так яны прайшлі дзесьці з кіламетр. І ў гэты момант адна з дзяўчат, якая так ласкава глядзела на лейтэнанта, горка ўздыхнула і сказала:

— А нашыя мужыкі зноў пабеглі піць піва.

Тут лейтэнант Піліпчук ціха войкнуў, узяў, каб не згубіць, у руку фуражку і, дэманструючы выдатную міліцэйскую выпраўку, што было духу ірвануў назад. Так хутка ён бег толькі на мінулым тыдні, калі ўцякаў ад падлеткаў, якія збіраліся набіць яго за тое, што ён забараняў ім слухаць у парку магнітафон.

Дзяўчаты здзіўлена пераглянуліся паміж сабою, спыніліся, бо не ведалі, што ім рабіць: ісці далей ці вяртацца назад.

Піліпчук вярнуўся да іх праз дзесяць хвілін у суправаджэнні пяці дружыннікаў, якія ішлі крышку ззаду і ўголас гаварылі яму прыкрасці; такія як "падла рыжая", "кныш", а то і зусім крыўднае— "недаробак". Лейтэнант трымаўся мужна — увесь час маўчаў і толькі калі зноў апынуўся ў дзявочай кампаніі,павесялеў і пачаў далей распяваць свой міліцэйскі раман.

Дружыннікі — мужчыны і хлопцы — ішлі ззаду за дзявочай кампаніяй і ўжо з задавальненнем успаміналі "залаты век" развітога сацыялізму, калі яны ў час дзяжурства з пачатку і да канца рэзаліся ў карты, а потым, каб перадыхнуць, рабілі невялікі перапынак і ішлі ў бліжэйшы піўбар ці пасылалі шафёра з міліцыянерам у вёску па самагонку.

Так паўтаралася кожны дзень, кожнае дзяжурства.

Славутае антыалкагольнае заканадаўства карэнным чынам змяніла наша жыццё.

З гэтай нагоды вечарамі вуліцы гарадка пусцелі і толькі калі-нікалі жудасна-магільную цішыню парушала задушэўная песня п'янага чалавека.

Нешта падобнае здарылася і зараз.

... На адзінай плошчы гарадка, абняўшы асвятляльны слуп, стаяў сталага ўзросту мужчына і размаўляў, уяўляючы, што перад ім каханая.

— Радасць мая! Я так сумаваў па табе. Не было мне без цябе ні сну, ні спакою. Я сустрэў нарэшце цябе, сэрца маё! Цяпер мы навекі будзем разам. Ніхто нас не зможа разлучыць да самае магілы ...

Дружыннікі і міліцыянер уважліва выслухалі маналог Адысея - бамаўца і ацанілі яго дружным смехам.

Бамаўцам называлі гэтага чалавека таму, што ён працаваў на слыннай будоўлі веку аж цэлы месяц і дзесяты год ужо распавядаў кожнаму сустрэчнаму пра сваю гераічную працу.

Вядома, што кожны п'яны на вуліцы — за рэдкім выключэннем, а ім у гарадку быў Ванька Бубянцоў — неўтаймаваная радасць для міліцыянера. І ўсё ж у вачах дзяўчат лейтэнанту хацелася выглядаць культурным чалавекам. Патрабавальным і культурным.

— Ну што, герой БАМа! Шпалы ўсё кладзеш. Кастылі забіваеш. Якое свята ў цябе сёння? Датэрміновая збойка чарговага тунэля і табе, вядома, як ударніку, за гэта не менш як ордэн пачапілі.

Асабліва радасна і гучна смяяліся дзяўчаты.

Мужчына хаця і быў п'яны, але ўсё ж зразумеў, што над ім пачынаюць кпіць, і таму нешта злоснае прамармытаў у адказ ды адпусціў рукамі слуп. Зямное прыцягненне пачало рабіць сваю заганную справу: бамавец пачаў падаць. Каб утрымацца на нагах, ён зноў ухапіўся за жалезабетонную апору.

— Бачу, бачу! Стаміўся ты, Строк, пасля напружанага працоўнага дня. Не хвалюйся, калі ласка, зараз па цябе экскорт прыедзе. Ціхановіч, твой участковы, сабраў ужо паперы, і мы пашлём цябе на заслужаны адпачынак, магчыма, нават на два гады.

Прафесійны алкаголік адразу зразумеў, што яго збіраюцца пасляць на лячэнне, і з вялікай радасці страшна расхваляваўся. За такую міласць ён выказаў падзяку лейтэнанту Піліпчуку, а ў яго асобе і ўсім органам унутраных спраў.

— У - у! Лягавыя ...

Лейтэнант, болей нічога не гаворачы, шпарка пабег да бліжэйшага тэлефона-аўтамата, каб патэлефанаваць у райаддзел і выклікаць машыну "хуткай міліцэйскай дапамогі для алкаголікаў" з празаічнаю назваю "аўтазак".

Чалавек не мог самастойна зрабіць і кроку, але дружыннікі засталіся ахоўваць яго, каб ён не збег.

Урэшце Строк аслабеў, не змог утрымацца і паволі асунуўся ўніз. Потым сеў на зямлю. Сядзець яму было да спадобы, і ён з задавальненнем выцягнуў ногі ўперад.

У гэты момант каля людзей, якія ў вольную часіну сабраліся паглядзець сцэну з жыцця раённага гарадка, праходзіла адна ні то інтэлегентная, ні то высакародная пані (у наш час і для сталіцы і для правінцыі не існуе пэўнай мяжы). Яе ні то інтэлегентнасць, ні то высакароднасць выразна падкрэсліваў бульдог, чыю чыстую кроў за адсутнасцю патрэбнага донара папсаваў мясцовы Жучок, але гісторыя пра гэта, як і пра шмат што іншае, сарамліва маўчыць.

Значыць так: жанчына ў цёплы, ціхі травеньскі вечар вывела пагуляць свайго ні то бульдога, ні то ... бог ведае, якой пароды сабаку. Яна заўжды добра памятала пра сваю звышчалавечую годнасць і таму не стала назіраць за падзеннем нораваў тутэйшых жыхароў, а горда павярнула галаву ў другі бок і прайшла міма. Яе Тусік меў на гэты конт іншую думку. Не звяртаючы ні на кога ўвагі, ён падбег да слупа, каля якога сядзеў Строк, і без усякага сораму — жывёліна ўсё ж, хоць і панская — зрабіў сваю справу, дзеля якой вывела яго ганарыстая гаспадыня. Затым грозна прабурчэў і падрапаў зямлю усімі чатырмя лапамі.

Сабачая вольнасць уразіла Строка. Яму стала шкада сябе і ён заплакаў.— Бедалага, ты, бедалага! Хутка і мяне чакае твая доля. Па свістку, па распарадку буду хадзіць апраўляцца. Лепш ужо турма, чым такое лячэнне. Ведаю ж, што гэта такое. Ужо лячыўся. Ой - ёй -ёй! Гаротная наша з табою доля.

Сабака ўважліва выслухаў чалавека, а для гэтага ён нават схіліў галаву на бок і падняў уверх правае вуха. Выслухаў і распазнаў у ім родную душу; затым падціснуў хвост і падышоў бліжэй. Каб канчаткова ўпэўніцца, што чалавек не хлусіць, сабака старанна абнюхаў яго: так і ёсць — праўда, толькі праўда і нічога акрамя праўды. Затым ён сарамліва апусціў вочы да зямлі, выцягнуў уперад галаву — поўны надзеі, што яго пагладзяць. І каб дасягнуць поўнага ўзаемаразумення з сабакам, Строк пагладзіў сваю "родную душу". Тусік не сустракаў такой пяшчоты ніколі, таму падышоў яшчэ бліжэй ды ўткнуўся пысаю ў шчаку свайго новага сябра. Мужчына пагладзіў сабаку яшчэ раз, затым абняў за шыю і паклаў на яго шырокую спіну галаву.

Лейтэнант Піліпчук вярнуўся хутка, а за ім неўзабаве прыехаў слынны міліцэйскі фургон. Затрыманне п'янага чалавека на цэнтральнай плошчы гарадка, ды яшчэ перад самымі вокнамі будынка, у якім размяшчалася ўсё раённае кіраўніцтва, зацягнулася і трэба было канчаць з усім гэтым, як мага хутчэй.

Калі Тусік пабачыў, што над яго новым сябрам навісла рэальная пагроза, то адразу грозна загыркаў. Смеласць і рашучасць у лейтэнанта раптоўна зніклі. Ён спыніўся, са страху затупаў нагамі і, ужо не звяртаючы ніякай увагі на дзяўчат, пісклява закрычаў:

— Пшоў вон! Пшоў вон!

Сабака адчуў пагрозу і таму загыркаў яшчэ мацней.

— Чый сабака? Застрэлю!

Але страляць лейтэнанту не было чым. Яго пісталет ляжаў у сейфе, за тоўстымі дзвярыма, замкнуты на некалькі ключоў, якія пільна ахоўваў дзяжурны па райаддзелу. Тады лейтэнант Піліпчук выцягнуў уперад руку і наставіў на сабаку палец, уяўляючы, што ў яго руках пісталет.

— П а х!

У адказ на такія несур'ёзныя паводзіны міліцыянера Тусік скокнуў да яго ног і ўшчарэпіўся зубамі за калашыну. Дружыннікі ад страху разбегліся, хто куды.

Ці то казённае сукно было нізкай якасці, ці то бульдог меў вострыя зубы, але калашына была разарвана ад калена да самага нізу. Сабака папсаваў таксама і скуру на назе лейтэнанта.

Тусік, пасля таго як здзейсніў удалы рэйд у стан ворага, хуценька вярнуўся да свайго сябра.

Строк адчуў, што ў яго з'явіўся надзейны абаронца і адразу пасмялеў.

— Вось вам, гадам! Будзеце ведаць, як героя БАМа крыўдзіць.

Лейтэнант адступіў зусім не геройскім манерам; кульгаючы адбег да машыны і ўжо адтуль пачаў злосна крычаць і дражніць сабаку.

— Чый сабака? Застрэлю. Строк, прагані яго ... Прагані, кажу, інакш табе горай будзе. У ... маці ... вашу ...

Сабака гыркаў.

Гаспадыня яго, якая мела гонар называцца ў прастанародддзі жонкаю раённага верхаводы, дэманструючы мясцовым плябеям ні то свае высакароддзе, ні то сваю інтэлегентнасць, адышлася далёка і не заўважыла, куды дзеўся яе Тусік.

Невядома колькі яшчэ часу перагыркваліся б міліцыянер з сабакам і чым увогуле гэта ўсё скончылася б, каб не Строк, які не змог зберагчы новага сябра. Ён сваёй п'янаю мазгаўнёй не мог нават падумаць, што такая жывёліна, як сабака, можа быць надта далікатнаю істотаю.

Чалавек быў рады, што ў яго з'явіўся надзейны сябар, які так рашуча стаў на яго абарону, і ён (Строк) стаў хваліць сабаку як мог, як умеў: не выбіраючы ні слоў і не думаючы пра сэнс сказаннага.

— ... Малайчына, радасць мая! Шчасце ты маё чатырохлапае... Ты хоць і з пароды лягавых — брат іх, значыць, — але свой у дошку.

Ад такога параўнання Тусік пакрыўджана, з вачыма поўнымі слёзаў, глянуў на свайго сябра, апусціў галаву і шпарка пабег даганяць сваю шаноўную гаспадыню.

У далейшым справа па затрыманню ардэнаноснага бамаўца, злоснага парушальніка грамадскага парадку і лайдака Вадзіма Строка,была простай і нецікавай. Чатыры дружыннікі ўзялі яго за рукі і ногі, асцярожна панеслі і паклалі ў фургон.

Ехаць Строку на два гады на лячэнне ўсё ж не хацелася, але яго п'яная галава, якая разам з машынаю падскоквала на калдобінах, не магла нічога прыдумаць, каб пазбавіцца ад бяды.

Калі Строка пачалі выводзіць з машыны, то ён проста пачаў упірацца і чапляцца рукамі-нагамі за розныя вуглы і выступы, чым вельмі раззлаваў пакусанага лейтэнанта, і той, доўга не думаючы, саданўў яму кулаком у плечы.

Удар аддаўся Строку колікамі ў сэрца, і тут — розум яго раптам прасвятлеў ды нарадзіў выдатную думку — ён рашыў разыграць сардэчны прыступ. Строк меў пэўныя акторскія здольнасці, пра што сведчыла нават тое, што яго бамаўскія байкі і сёння мелі поспех і прыносілі яму дэвідэнды ў выглядзе піва ці шклянкі віна на пахмел.

Ён гучна войкнуў і схапіўся за сэрца. Нягледзячы на істэрычныя крыкі "сэрца, сэрца", дружыннікі завалаклі Строка саматугам у пакой да дзяжурнага, але і там ён паваліўся на казённую лаўку, куды звычайна садзілі затрыманых, затым з лаўкі ўпаў на падлогу і тут працягваў валтузіцца і крычаць пра неўтаймаваны боль у сваім сэрцы.

*(Працяг у наступным нумары.)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:*** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:*** 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by



***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***
Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 29. 01. 2001.
Наклад 2900 асобнікаў. Замова № 5
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 215 руб., 3 мес.- 645 руб.
***Кошт у розніцу:*** 55 руб.